# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

ISNN 1392-7671 WWW.RUNBEL.LT

11 лютага 2002 № 45 кошт 1 літ


ЛІТАРАТУРА



Беларускі паэт **Анатоль Бярозка (Мацей Рэпкаў-Смаршчок)** нарадзіўся 19 лютага 1915 г. у вёсцы Падлесьсе Ляхавіцкага раёну на Берасьцейшчыне. У Баранавічах закончыў ліцэй і гімназію, працягваў адукацыю на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту, які закончыў напачатку 2-ой Сусьветнай вайны — дыплём атрымаў у сьнежні 1939 г. У віленскі пэрыяд малады паэт друкаваўся ў часопісах „Шлях Моладзі", „Калосьсе", „Заранка", у тагачасных беларускіх газэтах. Быў сябрам Беларускага Студэнцкага Саюзу. Выдаваў зь сябрамі рукапісны часопіс „З-за плоту", у якім, упіку тагачаснаму беларускаму савецкаму друку, маладыя аўтары выступалі з крытыкаю антычалавечага сталінскага рэжыму. У часе заняцьця ў верасьні 1939 г. Вільні Саветамі, Анатоль Бярозка праз надрукаваную ў згаданым часопісе „Оду да Сталіна" патрапіў у поле зроку НКУС. Аднак высьветліць, хто хаваецца пад гэтым псэўданімам, саветчыкі не змаглі. „...і ніхто больш пра пра Бярозку не пытаўся. — успамінае Мацей Смаршчок. — І ён сапраўды памёр: пакінуў пісаць назаўсёды". У часе вайны Мацьвей працаваў лекарам у шпіталі ў Баранавічах, нейкі час быў дырэктарам беларускай мэдычнай школы. У 1944 г. немцы зачынілі школу, і Мацей Смаршчок выехаў у Познань, дзе жылі ягоныя сваякі. Там быў арыштаваны гестапа й адпраўлены пад канвоем разам з бацькам у канцлягер Нордхаўзэн у Нямеччыне. Бацька, Васіль Рэпкаў-Смаршчок, памёр у лягеры, а маці, якая засталася ў Падлесьсі, была закатаваная энкавэдыстамі ў савецкім канцлягеры ў Лясной. Адзіны брат Мацея Рыгор загінуў у радох Чырвонай Арміі падчас абароны Мурманску. Зь Нямеччыны Мацей Смаршчок у 1948 г. пераехаў у Амэрыку. У Амэрыцы праявіўся другі ягоны талент — лячыць хворых і нямоглых. За ягоную шматгадовую й плённую лекарскую дзейнасьць адзін з дамоў састарэлых у горадзе Мадысоне (штат Мінесота) ў 1986 г. названы імем доктара Мацьвея Смаршчка. У 1989 г. Анатоль Бярозка выдаў кнігу „Адзінаццаць вершаў" з сваімі паралельнымі перакладамі на ангельскую мову. Апошнімі гадамі сп. Мацей Смаршчок бярэ актыўны ўдзел у беларускай грамадзкай дзейнасьці. Ён аказвае дапамогу дзецям-чарнобыльцам, беларускім суполкам за мяжою, дапамагае фінансава й нашай „Руні". З днём нараджэньня, шаноўны сп. Мацей, добрага Вам здароўя й плённай працы!



**Анатоль Бярозка**

## ЭПІГРАФ

*Я з дарогаў далёкіх а горкіх ніколі к табе не вярнуся,*
*дарагая матуля-зямля. У чужым, няведамым полі*
*мае косьці збутлеюць. Не аплача мяне Яраслаўна*
*У Падлесьсі, родным сяле. Ня схіляцца вербы, рабіны*
*над магілай забытаю. Толькі вецер з-пад Нёмана, Лані*
*мо над ёю павее калісьці — зашапоча ў быльлі на кургане.*
*І ня вернецца конь мой буланы да парогу роднае хаты,*
*каб хоць вестку к табе паднясьці пра мяне, што загінуў*
*без сваіх, безь цябе, мой аграблены Краю Забраны.*
*Я зарокся цябе не забыць анідзе, аніколі,*
*і вялікую ласку к табе я пранёс праз гады і нягоды,*
*і вазьму я з сабой у магілу забытую гэту.*
*Не кажы пра мяне, што загінуў дарма, пустацьветам —*
*пад мурогам чужым у далёкай нянашай краіне*
*будзе пораху жменя, што пайшла зь беларускага роду,*
*зь беларускай ральлі. Тая пораху жменя,*
*той куточак чужое зямлі — то навекі шматок Беларусі.*
*Сьніцца будзеш ты мне, мой краю палеткаў ільняных,*
*у раньні сьветлага дня, ў васільковае сіні узорах...*
*Хоць далёка магіла мая, хоць і згінуў ня ў пору —*
*я з табою навекі — там дзе моляцца сонцу разоры.*
*Пад чужым, глухім дзірваном, што берамем ляжа на грудзі,*
*сьніцца будзе мне вецер той сьвежы з-пад Нёмана, Лані,*
*і адна толькі скарга ў мяне — што мяне там ня будзе,*
*калі ў новую весну ты сустрэнеш сваё сьвітаньне.*



# Мой погляд на Курапаты

Мінулай восеньню беларусы сьмела заступілі на абарону Курапатаў. Невялікая грамада паўстала сьмеля – як Давыд супраць Галіяфа – і выйграла. Ворагам не ўдалося "пад шумок" будоўлі зьнішчыць, спаганіць сьвятое мейсца. Наадварот – Курапаты замацаваліся ў нашай сьвядомасьці як сымбаль праўдзівай беларускай гісторыі, як покліч да жыцьця й змаганьня.

Сьмела пачалося й цягнулася змаганьне ў Курапатах і, нарэшце, здаецца, удала завяршылася. Завяршаецца стварэньне мэмарыялу – зрабілася цалкам зразумела, што цішыня лесу й лес крыжоў ёсьць найлепшы спосаб ушанаваньня сьвятога мейсца. Апошняй кропкай магло-б стаць вось што: вынесьці з Курапатаў хлусьлівую табліцу з абяцаньнем штосьці там збудаваць. Хай сёньняшнія ўладцы сабе маўзалей будуюць. А мы зробім так, як спрадвеку рабілі – на магілах паставім крыжы, памолімся й будзем жыць далей.

**Сяржук Вітушка**

## Пан Лес

*Лес – гэта храм.*
*У ім акрыяе Хам.*
*Лес – гэта сьвятарнае мейсца,*
*для душаў аблудных меса.*
*Меў золата, срэбра Крэз,*
*але, калі-б ён убачыў*
*хоць раз наш бурштынавы Лес*
*вышэй ад варагавых мачтаў –*
*паблякла-б срэбра яго*
*і золата-б паржавела,*
*пад ногі-б каменьнем лягло*
*і сэнсу-б суздром ня мела,*
*бо лес – гэта больш, чым лес.*
*Вам ранілі гострым сэрца,*
*крывавіць, баліць прарэз,*
*і хочацца толькі сьмерці,*
*стрывайце, знайдзіце моц*
*дайсьці, дапаўзьці да Лесу,*
*ён з боскай крыві прарос*
*пакутнікам правіць месу,*
*ён спыніць жывіцай кроў –*
*такога ня змогуць людзі,*
*і, быццам прадвесьні гром,*
*У вас немаўля прабудзіць.*
*Жыцьцё і, тым болей, сьмерць*
*загубяць свой сэнс цялесны –*
*Пан Лес не дазволіць мець*
*пачуцьцяў, што шкодзяць лесу,*
*бо нельга паганіць храм,*
*бо нельга сьвятое нішчыць,*
*куды-ж тагды прыйдзе Хам*
*ад хамства душу ачысьціць?*

*Анатоль Сыс*

## "Каляды" ў "Сябрыне"

11 студзеня 2002 г. клюб "Сябрыны" ладзіў у кавярні "Сьвятайне" ў Доме нацыянальных меншасьцяў імпрэзу, прысьвечаную Калядным сьвятам і прыходу старога Новага Году. Аб 17.00 у файе кавярні пачалі зьбірацца госьці. Завітаў туды й настаўнік беларускай школы й сакратар нашае газэты сп. Павал Саўчанка. Зайшоўшы ў файе, ён зьняў верхнюю вопратку й выцяг з партфэлю з тузін асобнікаў каляднага нумару "Руні", кнігі нашага выдавецтва ды пачаў, як заззвычай, раскладваць гэта ўсё на століку побач з партфэлем. У файе заходзілі госьці, распраналіся, ішлі ў залю да сьвяточных сталоў. Увайшоў і пасол Рэспублікі Беларусь у Літве сп. Гаркун з жонкаю. Сп. Саўчанка павітаўся зь імі, у гэты момант з сьвяточнай залі выйшаў старшыня "Сябрыны" Раман Вайніцкі (ён-жа загадчык гаспадаркі беларускай школы) і закрычэў на яго: "Саўчанка, хто цябе сюды зваў? Зараз-жа пакінь памешканьне!" А калі ўбачыў у руках у Саўчанкі газэту "Рунь", сарваўся на лямант: "Забяры! Не дазволена!" і г. д. Саўчанка спакойна адказаў, што ён прыйшоў не на асабістую сустрэчу з Вайніцкім, а ў беларускую грамадзкую арганізацыю на сьвята. (Прыгадаем тут, што ў часы кіраваньня "Сябрынай" сп. Валянцінам Стэхам Павал Саўчанка прымаў актыўны ўдзел у працы клюбу. Тады, дарэчы, пісьмовых запрашэньняў не было, у клюб да Стэха прыходзілі ўсе, хто жадаў прыйсьці). А Вайніцкі тымчасам лямантаваў, што не дазволіць Саўчанку пераступіць парог банкетнае залі, закончыўшы лямант грубым "Выйдзі вон!" Тут і пасол Рэспублікі Беларусь сп. Гаркун прыйшоў на дапамогу Вайніцкаму: "Вас сюды не запрашалі! Вы павінныя пакінуць залю!" На што Саўчанка адказаў, што ён абавязкова застанецца. Тады сп. Гаркун абурана сказаў: "Вы зрываеце нашае мерапрыемства, нашую сустрэчу, і калі Вы не пакінеце памешканьне, пакінем яго мы!" На гэтыя словы Гаркуна Саўчанка адказаў, што ён не дазволіць сабе сарваць іхнае сьвята й пакінуў сядзібу Дэпартамэнта нацменшасьцяў Літвы, добра, што яму далі яшчэ пару хвілінаў на сабіраньне рэчаў... Саўчанка распавёў, што, ідучы дадому, ён думаў, як гэта так здарылася, што пасол Рэспублікі Беларусь у Літве сп. Гаркун разам з старшынём "Сябрыны" Раманам Вайніцкім выкінулі яго, літоўскага грамадзяніна, зь літоўскага памяшканьня, з каляднага сьвята беларусаў Вільні? Гэтак-жа можна прыйсьці на мейсца працы й быць выкінутым зь яго, гэтак-жа можна й, наогул, "прыдавіць, як за савецкі час. І хоць такія думкі не супакойвалі Саўчанку, аднак трохі цешыла тое, што нядаўна прыбылыя зь Беларусі новыя супрацоўнікі беларускай амбасады паказалі сапраўдны дыпляматычны этыкет і вытрымку: яны знаходзіліся ў часе інцыдэнту ў залі, спакойна слухалі й назіралі за сцэнай "ля параднага пад'езду" й ня кінуліся на дапамогу Вайніцкаму й паслу Рэспублікі Беларусь у Літве сп. Гаркуну. Калядаваньне прайшло добра, вадзілі "казу" й "Цыгана", былі жарты й песьні, а Саўчанка йшоў дадому й паштараў пастэрнакаўскае: "Скажите, милые, какое у нас тысячелетие на дворе?

**Валянціна Грыневіч**

## У дамкох ТБК

13 студзеня адбылася чарговая сустрэча. Супала яна з надыходам старога Новага Году, а была прысьвечаная 110-ым угодкам з дня нараджэньня Браніслава Тарашкевіча. Пра жыцьцё, творчасьць і дзейнасьць слыннага беларускага дзеяча распавёў Павал Саўчанка. Пра грамадзкія й палітычныя погляды Тарашкевіча расказаў сп. Зянон Пазьняк, а віленчучка Н. Станкевіч успомніла, як вучылася беларускай мовы з знакамітай "Граматыкі" Тарашкевіча. Яна-ж зачытала вершы заходнебеларускіх паэтаў, сяброў Тарашкевіча. На сьвяточнай вячэры сп. Зянон Пазьняк выступіў з прамовай, у якой закрануў балючыя для Беларусі й беларусаў праблемы. На вячэры прысутнічаў і госьць з Польшчы сп. Мацей Канапацкі, былы вучань легендарнай Віленскай Беларускай Гімназіі. Ён расказаў пра свае сустрэчы зь беларускімі дзеячамі Польшчы, Англіі й іншых краінаў.

**Павал Саўчанка**



На Тры Каралі ў Вільні прайшлі гастролі дзіцячай тэатральнай студыі «Альтанка» з Залесься, радзімы кампазытара Агінскага. Дзеля Калядных Сьвятаў юныя артысты прывезьлі спэктакль «Цар Ірад» і паказалі яго вучням школы імя Ф. Скарыны й вернікам беларускага касьцёлу. На мой погляд, і выканаўцы, і кіраўнік – Сяргей Верамейчык – заслугоўваюць самай шчырай пахвалы. Іхная батлейка – сапраўды жывое беларускае відовішча! Мне запомніўся й здаўся самым красамоўным куплет з аднае калядкі ў іхным выкананьні:

*Просім мы Цябе, Божа,*
*Просім Цябе, як можам,*
*Дай на небе жыцьцё шчасна,*
*На зямлі жыцьцё прыгожа.*

Тэатар «Альтанка» – гэта прыгожа!

**Сяржук Вітушка**

## Мацей Канапацкі



з Гданьску, былы вучань Віленскай Беларускай Гімназіі, наведаў напрыканцы студзеня наш горад. Я меў прыемнасьць хадзіць зь ім па старых віленскіх вулках – і гэта былі вандроўкі ня толькі ў прасторы, але і ў часе. Спадар Мацей ахвотна й эмацыйна распавёў пра Вільню свае маладосьці. (Успаміны гэтыя, спадзяюся, будуць апублікаваныя ў кнізе "Віленская Беларуская Гімназія"). Цікавіўся сп. Мацей і сучасным беларускім рухам – наведаў нашыя набажэнствы і ў царкве, і ў касьцёле (а, дарэчы, сам ён – мусульманін), сустрэўся зь сябрамі Таварыства беларускай культуры й супрацоўнікамі Беларускага Музэю імя І. Луцкевіча. На разьвітаньне наш шаноўны госьць сказаў так: "Шчасьлівы, што наведаў свой родны горад! Я тут чуюся ў сябе й на сваім!" Спадар Мацей, дзякуючы Вашым экскурсіям і мэмуарам я, прыежджы, магу цяпер смела паўтарыць: "Я тут чуюся ў сябе й на сваім!"

**Сяржук Вітушка**

## Напрыканцы студзеня

адбыўся справаздача-выбарчы сход ТБК у Літве. У справаздачым дакладзе старшыня Таварыства сп. Хв. Нюнька узгадаў усё зробленае ТБК за апошнія два гады. Ён адзначыў, што ўзначальваемае ім Таварыства ці не адзіная суполка ў Літве, якая не цурается палітыкі й ладзіць мітынгі й пікеты ў абарону дэмакратыі ў Беларусі. Дзейнасьць ТБК, адзначыў выступоўца, ніколі не фінансавалася й не фінансуецца з замежных фондаў і арганізацыяў, і таму не знаходзіцца пад іхным уплывам. Сход ацаніў дзейнасьць ТБК, як станоўчую, старшынём Таварыства зноў абраны сп. Хв. Нюнька.

**Павал Саўчанка**

## Некаторыя чыноўнікі

віленскай раённай улады са скуры пнуцца, каб дагадзіць беларускай амбасадзе ў Літве, у прыватнасьці, амбасадару У. Гаркуну й консулю Аляксандраву, мабыць, з надзеяй, што ў Беларусі тамтэйшым палякам перападуць нейкія ільготы ў справе адраджэньня пальшчызны. Пасол У. Гаркун і консуль Аляксандраў частыя госьці на розных імпрэзах, якія ладзіць Віленскае раённае самакіраваньне (чытайце: AWPL – Акцыя выборча палякаў Літвы). Аднак, як высьвятляецца, "дружба дружбой, а табачёк врозь". У самай Беларусі, напрыклад, у Гарадзенскай вобласьці, беларускія ўлады мяйсцовых палякаў прыцясьняюць. Так, Саюз палякаў Беларусі змушаны плаціць дзяржаве нямалую "даніну" за грашовую дапамогу з боку Польшчы. Цяпер за няўплату гэтае "даніны" ўлады Гарадзеншчыны "апісваюць" маёмасьць згаданай польскай грамадзкай арганізацыі. Вось вам і вынік "дружбы" з дыктатарскім рэжымам.

**Юры Гіль**



*Выступае дырэктар Інфармацыйнага цэнтру дапамогі няўрадавым арганізацыям сп. Вайдатас Ільгус. Друскенікі.*

Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі" сумесна з Цэнтрам грамадзянскай адукацыі Польшча – Беларусь (Беласток) праводзіць для беларусаў Віленскага краю сэрыю сэмінараў пад назвай "Век жыві – век вучыся!" Тэма лекцыяў і дыскусіяў сэмінараў "Літва – Польшча – Беларусь: супрацоўніцтва памежных рэгіёнаў", а таксама:

- Як я сам магу арганізаваць сваё прыватнае дзела?
- Як я сам магу стаць удзельнікам мяйсцовага самакіраваньня?
- Як я сам магу палепшыць сваё жыцьцё праз грамадзкую дзейнасьць?

Такія сэмінары праведзеныя ўжо ў Друскеніках і Вісагінасе. Рыхтуецца чарговы сэмінар у Савічунах (непадалёк ад Сьвіранаў, дзе нарадзіўся Ф. Багушэвіч) Віленскага раёну і ў Дзевянішках Салечніцкага раёну. Больш падрабязна пра сэмінары мы распавядзем у наступных нумарох нашае газэты.




*Удзельнікі сэмінару на экскурссі ў Інфармацыйным цэнтры Ігналінскай АС. Вісагінас.*

# “Чортаў апэндыкс”

## (Цемра й край бандытаў)

Некаторыя ўважаюць, што апэндыкс гэта непатрэбная частка кішэчніку, яго ўтыркнуў у канцы тоўстай кішкі чорт у той самы час, калі Бог ствараў чалавека. Але хто з камуністаў у часе стварэньня Літоўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі прыдумаў і ўтыркнуў такі апэндыкс у Паўднёва-Усходнюю Літву, у сярэдзіне якога апынулася невялічкае мястэчка Дзевянішкі? Чуў я ад нейкага гісторыка-гумарыста, што зрабілі гэта за выпіўкаю Антанас Сьнечкус і Юстас Палецкіс. Яны, жартам і на радасьць летувісам, накрэсьлілі-выкруцілі гэты падобны да пляшкі апэндыкс на мапе ВКЛ. Жарты-жартамі, а апэндыкс гэты, на радасьць і гора мяйсцовых жыхароў, прайснаваў ужо больш за паўвека.

Блукаючы па Вільні, паспрабаваў даведацца, што думаюць і ведаюць пра гэтае партыйнае ўтварэньне, пра “Дзевянішскі апэндыкс”, віленчукі. Маладыя дзяўчаты бяз роздуму адказалі: “Там, у гэтым канцы Літвы, глухамань і цемра”, іншая група маіх апытантаў падцьвердзіла, што там суцэльнае жабрацтва й галеча, а старэйшы векам чалавек сказаў з цьвёрдай упэўненасьцю: “О, там здаўна край бандытаў, ужо ад вякоў!”



Былыя савецкія беларускія й летувіскія ўлады глядзелі на гэты “апэндыкс” скрыва, чамусьці яго недалюблівалі, асабліва беларусы. Аднак за савецкіх часоў летувісы з адсталага мястэчка Дзевянішкі зрабілі даволі шыкоўнае мястэчка: збудавалі добрыя школы, адкрылі прафэсыянальную вучэльню, панастаўлялі крамы, аднавілі касьцёл, упарадкавалі дарогі. Беларускі прыгранічны бок выглядаў больш занядбана, хаця да вайны ўсё было наадварот. А найгоршае сёньня ў гэтым рэгіёне ёсьць “Кітайская сьцяна” – граніца, якая адрэзала велізарную частку каталіцкага насельніцтва памежнай Беларусі ад іхнага звыклага гаспадарчага й рэлігійнага цэнтру – Вільні, якая ад вякоў адыгравала для іх куды больш важную ролю, чым Менск, Горадня або Варшава. Праз многія стагодзьдзі да Вільні люд з усяе каталіцкае Беларусі йшоў да Вострай Брамы, да Кальварыі і ў касьцёлы на адпусты, ішлі па навуку, работу й хлеб. Так было нават за Саветаў.

Цяпер у “чортаў апэндыкс” апрача мястэчка Дзевянішкі ўваходзяць каля 50 вёсак, вёсачак і хутароў. У ім маюцца толькі два памежныя ўваходы-выхады, даўжыня па пэрыматры апэндыкса 100 км. У гэтым апэндыксе тамтэйшыя жыхары сядзяць нязрушна, як у бутэльцы. У Вільню праз Геранёны зь беларускага боку езьдзяць пераважна пэнсіянэры. Торбы іхныя старанна перапрасаюцца памежнікамі, каб не правезьлі шпіёнаў. Ходзяць тутэйшыя людзі й кустамі-лесам – у многіх за мяжою сваякі.

Штопраўды, не ў апошняе несавецкае дзесяцігодзьдзе, а ўжо адразу пасьля вайны моладзь пачала пакідаць гэты край, падобна, як і паўсюль на Віленшчыне. Вёска апусьцела, пачала выміраць. Калгасы й саўгасы адвучылі людзей, асабліва маладзейшых, ад зямлі, прывучылі да гультайства й г. зв. “халтуры”, да абыякавасьці да ведаў, культуры, рэлігіі. Гэта прывяло да алкагалізму, наркаманіі, прастытуцыі. І сёньня сельская школа (я сам настаўнік) нічога ўжо ня можа зрабіць, нічога ня можа зрабіць і паліцыя, ня могуць суды і ўрады, – і ўвесь гэты бруд, гэтае шумавіньне плыве самацёкам па Літве, захапіўшы й “чортаў апэндыкс”, часьцінку былога Вялікага Княства Літоўскага...

Аднак, каб не падумалі некаторыя, што ў гэтым “апэндыксе” ў цяперашняй Летуве й вакол яго (ў радыюсе 10-50 кілямэтраў у цяперашняй Беларусі) ніколі нічога цікавага не было, распавяду коратка пра ягоную найцікавейшую гісторыю. Калісьці наш зямляк, знакаміты знаўца нашага краю Чэслаў Янкоўскі (з-пад Ашмянаў) апісаў гэты край у трох тамох “Powiat Oszmiacski”, пісалі й іншыя. Бяда ў тым, што напрацягу апошняга паўвека сапраўдную гісторыю “разьлюбілі”, ня любяць і цяпер, мала таго, яшчэ й фальшуюць. Дайшло да таго, што ў Польшчы пра нас ведаюць толькі тое, што Адам Міцкевіч і Юзэф Пілсудзкі аднекуль там з-пад Вільні, а ў самай Вільні і ў Менску, апрача навукоўцаў ды гісторыкаў, нават гэтага ня ведаюць. А, да прыкладу, у памежных цяпер зь Летувою Геранёнах калісьці быў замак і жыла там адна з найпрыгажэйшых прыгажунь Эўропы Барбара Радзівілянка, каторая спатыкалася тут з маладым каралём Жыгімонтам Аўгустам. А вазьміце Гальшаны, спусьцелую мясьціну пад Ашмянамі, там таксама быў ці не найпрыгожшы у ВКЛ замак, дзе жыла княжна Сафія Гальшанская , каторая ў 1442 г. выйшла замуж не абы за каго, а самога Вялікага князя Ягайлу, і нарадзіла каралёў для Рэчы Паспалітай, Уладыслава й Казіміра, запачаткаваўшы слынную дынастыю Ягелончыкаў. Ня ведаюць нават таго, што тут блізка жыў і тварыў вядомы кампазытар М. К. Агінскі ды палітычны катаржнік-сыбірак Бэнэдыкт Дыбоўскі, родам з Адамарына, першы дасьледчык і фалькльёразнаўца, а ягоны брат, Уладыслаў Дыбоўскі, быў выдатны знаўца Навагрудзкай зямлі. З гэтага кутка Беларусі паходзяць слынныя роды Радзівілаў, Сапегаў, Тышкевічаў, тут былі іхныя палацы, замкі. Гэтая зямля была ўрадлівая на вядомых паэтаў, пісьменьнікаў, архітэктараў, мастакоў, палітыкаў, музыкантаў, генэралаў. Ёсьць тут нават свае алімпійскія чэмпіёны ды вучоныя-атамшчыкі й канструктары. Праўда, воляй-няволяй зь іх зрабілі “рускіх”, “палякаў”, “літоўцаў”, “украінцаў”, “жыдоў”, “амэрыканцаў”, “аўстралійцаў”, а каго-небудзь, можа, й “нэграм”, – толькі не “беларусаў”. Так рабілася ад вякоў, так робіць і цяпер і, напэўна, яшчэ доўга-доўга будуць рабіць.




Пра гэта я нядаўна расказаў аднаму тутэйшаму чалавеку, каторы, шчыра выслухаўшы мяне, сказаў: “Юзаф, гэта ўсё праўда, што ты кажаш, але каму гэта сёньня патрэбнае? Нават тыя, што сядзяць на высокай пасадзе, гэтага ня ведаюць, і знаць ня хочаць ні ў нас, ні ў Літве, ні ў Польшчы, ні, на жаль, у сёньняшняй Беларусі. Тым больш ня ведаюць простыя мужыкі. Цяпер мы ў капіталізме жывем, няўжо ты гэтага ня ведаеш?” Я ня ведаў, што яму адказаць, узгадаў, як да мяне некалі з родных Суботнікаў прыехаў мой дзядзька Антось, у ботах-храмавіках ды ў зялёным фрэнчы, сшытым з шыняля. Гэта быў тыповы беларускі вясковец-селянін. Я свайго дарагога госьця завёў у самы найлепшы рэстаран у Вільні. Заселі мы пад самымі фігусамі, замовілі шніцэлі й па 200 грамаў каньяку, а дзядзька тымчасам дзеля пробы наліў свае вясковае самагонкі. Побач, пры доўгім стале, сядзела вясёлая кампанія савецкіх афіцэраў з прыгожымі дзяўчатамі. Антось, перад тым як есьці, устаў і пераэжагнаўся. Там зьвярнулі ўвагу й засьмяяліся. Хвілінаў праз пяць падыйшоў да нас малады афіцэр і сказаў далікатна, але так, каб і дзядзька Антось, і ягоныя сябры й сяброўкі чулі, што ён кажа: “Мы вот из-за соседнего стола видели, как Вы перед тем, как есть, встали и перекрестились. Может от этого шницель и коньяк стал вкуснее?» Дзядзька Антось, доўга ня думаючы, адказаў, каб і кампанія за сталом таксама чула яго: “Таварыш лейтэнант, я гэтага ня ведаю, ці зробіліся смачнейшыя шніцэль і каньяк, калі я пераэжагнаўся, алеж чалавеку трэба нейкім чынам рожніцца ад сьвіньні!” Гэта была такая мужыцкая аплявуха, што нашыя суседзі болей ужо на нас не глядзелі й, крыху пасядзеўшы, сыйшлі.

Цяпер у Летуве жагнаньнем ужо нікога ня зьдзівіш. Нават прэзыдэнты, былыя камуністычныя намэнклатуршчыкі № 1, ды міністры стаяць на каленях у касьцёлах са сьвечкамі, жагнаюцца, і ніяк не паверыш, што гэта тыя самыя нашыя партkiраўнікі. Што-ж, у 60-70 гг., пры іхным камунізме, яны «псыхушкі» не мінавалі-б! Вось як мяняюцца часы. Праўда, да лёсу гісторыі, літаратуры, пэдагогікі, этнаграфіі ды пад. яны як былі, так і засталіся абыякавымі. Жагнайся, не жагнайся, а на першым мейсцы ў іх стаў Даляр, добры дамскі азадак ды сіла. Што-ж, так, напэўна ня толькі ў нас. А калі добра падумаць, дык, можа, так і трэба. Калі ўсё гэта чалавек або група людзей маюць, дык тады маюць усё: розум, павагу, найвышэйшую адукацыю, уладу, – адным словам, маюць усё, што хочаць.

Зрэшты з прыходам да нас у Летуву капіталізму велізарнейшыя зьмены адбыліся. Напрыклад, нікому раней невядомыя Сабоніс і Мачулёніс мільёнамі варочаюць. А што да бамжоў і беспрацоўных, дык іх толькі ўсяго нейкіх 50 %, ня так і многа – кожны другі можа добра жыць. І моладзь можа забаўляцца й гуляць да пары. У нас-жа цяпер усё, як у казцы, нават дзьверы самі адчыняюцца ў крамах, рэстаранах, а яшчэ на вакзалах, праз якія маладыя займелі магчымасьць падацьца на Захад двары падмятаць ды дарогі рапараваць. А хто мацнейшы, можа на ўласнай зямлі корпацца з відэльцам або шылам, як яму хочацца, бо коней-жа няма.

Так што жыцьцё ў нас у Летуве і ў ейным “чортавым апэндыксе” талковае, і не да гісторыі нам тут, не тое што ніжэй пад “апэндыксам” – у суседняй Беларусі. Тамака ўсё яшчэ ў сацыялізме жывуць і ня бачаць, што кругом, у капіталістычным сьвеце, дзеецца, а нават і ў суседняй Літве. Прыяжджайце да нас, калі здолееце праравацца цераз “Кітайскую сьцяну”, пабачыце!

*Працяг будзе*

**Юзаф Русакевіч**



# Там, дзе мяне няма...

**12. Пасьляваеннае жыцьцё беларусаў-віленчукоў. Абарона дыплёму. Працяг працы ў Гродзенскім пэдінстытуце. Пачатак працы ў Віленскім пэдінстытуце.**

Апошні сэмэстар ва ўнівэрсытэце. Дыплёмная праца. Я магла яе пісаць у Горадні, але ўсё роўна прыяжджала ў Вільню наведаваць маму. Цяпер, калі ў яе жылі Кнігісы, яна магла выйсьці ў горад, часам наведаць каго-небудзь з старых знаёмых. Іх было ня шмат, тых беларусаў, якія ў міжваенныя гады працавалі ў беларускіх арганізацыях: Марыя Паўловіч, жонка Сяргея Паўловіча, які пэўны час быў дырэктарам ВБГ, грамадзкага дзеяча, аўтара чытанак для дзяцей, — жыла на Зарэччы на Папоўскай вуліцы. Кватэра ў яе была невялікая, невыгодная, на мансардзе. Трэба было паднімацца па старых сходах, ваду трэба было насіць у вядры са студні ў панадворку. Сяргей Паўловіч памёр у 1940 г., пасьля з Марыяй жыў ейны брат, чалавек зусім хворы, і сястра мужа. Пасьля іхнай сьмерці Марыя засталася адна. Мама часам наведвала яе, а апекавалася ёю Марыся Маслоўская (Скурка). Маслоўская закончыла ў 1928 г. Віленскую гімназію (здавала экзамен перад спэцыяльнай камісіяй разам з групай вучняў з Наваградзкай гімназіі, сярод якіх быў і вядомы цяпер у сьвеце вучоны Барыс Кіт, Жэня Лован (Казлоўская), Янка Хвораст ды інш). Марыся прыносіла вады, гатавала, купляла, што трэба. Маслоўская сябравала яшчэ з гімназіяльных часоў з Жэняй Лобан, і цяпер абедзьве, ужо немаладыя, але жвавыя жанчыны ўзялі пад сваю апеку старых і слабых. Жэня апякавалася Тамарай Галкоўскай, якая пасьля сьмерці бацькі, кампазытара Канстаньціна Галкоўскага, таксама засталася адна. Жыла Тамара ў добрай кватэры на вул. Гоштаўто, вокны выходзілі на рэчку, на касьцёл Сьв. Рафала й кляштар. Кватэра мела ўсе выгоды, але Тамара была нейкай бездапаможнай, нічога ня ўмела рабіць. У кватэры вечна быў непарадак, усё параскіданае, і ёй патрэбная была апека.

Маслоўская й Лобан наведавалі Шнаркевічаў, бывалі і ў „Лясной хатцы". Мама таксама хвдзіла ла Шнаркевічаў. Яны жылі ва ўласным доме, у канцы вул. Субачаўс, каля рэчкі Віленкі. У іх быў вялікі сад, пчолы, гэтым займаўся Язэп Шнаркевіч. Дзяцей у Шнаркевічаў не было, і яны ўзялі да сябе Язэпавага пляменьніка Янку Тулейку. Янка вучыўся падчас нямецкай акупацыі ў ВБГ, у адной са мной клясе. З намі вучылася й Соня Сіняўская. У 1947 г. яны пажаніліся, шлюб даваў ім у Бэрнардынскім касьцёле ксёндз Адам Станкевіч, хаця Соня й была праваслаўная. Соня гаспадарыла, даглядала паню Надзею, хворую, прыкаваную да ложка.

Першае ўражаньне, калі хто заходзіў у пакой, дзе ляжала п. Надзея, было непрыемнае: на фоне белай падушкі шэры, як попел, твар. На твары, здавалася, жылі толькі вочы. Але падчас гутаркі зь ёй забываўся ейны несамавіты выгляд — п. Надзея захавала ясны розум, добрую памяць, цікавасьць да жыцьця. Зь ёю можна было вельмі цікава пагаварыць. І вось дзьве старыя жанчыны, Зоська Верас і Надзея Шнаркевіч, узяліся за справу, якой не зацікавіўся ніхто з маладзейшых: рашылі сабраць усё магчымае пра знакамітую Віленскую Беларускую Гімназію, пра Радашкоўскую й Клецкую гімназіі, пра сьпевака Міхася Забэйду-Суміцкага. Яны зьбіралі ўспаміны былых вучняў, настаўнікаў, пасьведчаньні аб сканчэньні клясы, атэстаты сьпеласьці й фатаграфіі. Назьбіралася шмат цікавага матар'ялу, які расказваў гісторыю гэтых беларускіх гімназіяў, пра жыцьцё й дзейнасьць слыннага нашага сьпевака. Пазьней гэтыя матар'ялы былі аформленыя ў 4 альбомы, з каторых 3 знаходзіцца ў мяне (ВБГ, Радашкоўская гімназія й Забэйда-Суміцкі) і 1 — у Соні Тулейкі (Клецкая гімназія).

Апрача вышэй згаданых асобаў, у Вільні жылі Сымон і Зінаіда Каралі з сынам Лявонам; Менцэвіч — колішні супрацоўнік Беларускага каапэратыўнага банку, дзе працавалі калісьці М. Паўловіч і Біндзюк, сябра таварыства „Пчала". А яшчэ ў тым самым доме, дзе й М. Паўловіч, жыла жонка (ўдава) Косьцевіча (Макара Краўцова). Яна была родам з Варшавы, але авалодала беларускай мовай й пасьля арышту мужа, які загінуў у лягеры, размаўляла па-беларуску. Маслоўская, якая апекавалася М. Паўловіч, памагала й Косьцевічысе.

У красавіку 1950 г. я абараніла дыплёмную працу, а ў чэрвені здала дзяржаўны экзамен. Дыплёмы ўручалі ўрачыста, у вялікай залі. Гэта было якраз 10-годзьдзе Савецкай Сацыялістычнай Літоўскай Рэспублікі. Было сьвята песьні на стадыёне „Жальгірыс". Здымаліся фільмы пра росквіт ЛССР. Зьнялі й нас, калі нам уручалі дыплёмы, прышпільвалі ўнівэрсытэцкія значкі: бела-сіні ромб з эмалі з гербам СССР. На жаль, фільм той недзе згубіўся. Сама я таго фільму ня бачыла, але адзін хлопец з Раванцаў служыў у войску на Ўкраіне й бачыў гэты фільм, ён напісаў пра гэта бацькам.

Пасьля летніх канікулаў я вярнулася на працу ў Гродзенскі пэдінстытут, куды мне далі накіраваньне на просьбу дырэкцыі інстытуту. Цераз год я дастала зь Віленскага Ўнівэрсытэту прапанову паехаць у Маскву, у аспірантуру, было выдзеленае мейсца для Літвы. Але я адмовілася. Стыпэндыя была малая, удваіх не пражыць, дый Масква ня Горадня, не паезьдзіш што пару тыдняў у родную Вільню.

Зімою 1952 г. да мяне прыехала мама. Яна не была ў Горадні ад 1923 г., калі пасьля продажу Альхоўнікаў пераехала ў Вільню. Мы хадзілі зь ёй па горадзе й яна паказала дом, дзе яны жылі з бабуняй Мілай, дом, дзе жылі ейныя дзяды з боку бацькі, Сівіцкія, дом, дзе была гімназія, у якой яна вучылася. Хадзілі да замку, на Каложу, да Нёману. Мама паказала мейсца, дзе калісьці быў пантонны мост, на які панесьлі яе коні, калі яна ехала брычкай. Усё гэта яна пасьля апісала ў сваіх успамінах „Старое Гродна" (Зборнік „Краю мой — Нёман". Мінск, 1986 г.).

У Горадні жыла тады яшчэ Разалія Сівіцкая, маміна дзядзіна. Тут было падвойнае сваяцтва. Разалія была з дому Садоўскага й жонка мамінага дзядзькі, брата Антона Сівіцкага. Паню Рузю ведала ўся Горадня: высокая, зграбная, нягледзячы на свае гады (ёй было за 70), хадзіла проста як струна, белыя валасы старанна прычосаныя, твар бела-ружовы, акуратная, з густам надзетая, — яе ўсе віталі, загаварвалі зь ёй. Цераз пару гадоў яна выехала да сына ў Польшчу. Мама прабыла ў мяне да вясны й вярнулася ў Вільню, трэба было сеяць агарод.

У Горадні працавала я да 1954 г., было вядома, што ў 1945 г. ф-т замежных моваў нашага ГПІ злучаць зь Мінскім інстытутам замежных моваў. Ехаць у Менск я не зьбіралася, і вось пасьля 5 гадоў працы ў Горадні вярнулася ў Вільню і ўладкавалася на працу ст. выкладчыкам на катэдры нямецкай мовы факультэту замежных моваў Віленскага пэдінстытуту. На катэдры працавала большасьць жыдоў: кіраўнічка катэдры Л. Левіцене, М. Мішкоўскі, Л. Германовіч, Шперлінчэне, Хвасас. (ён-жа быў і дэканам) і два маладыя выкладчыкі, якія закончылі ВПІ год таму назад, А. Карэцкайтэ й Ю. Крытэнаўскас. Я заняла мейсца А. Масілюнаса, які паступіў у асьпірантуру. Атмасфэра на катэдры была нядрэнная, хаця трэба было быць асьцярожнай зь якой-небудзь крытыкай, бо большасьць супрацоўнікаў катэдры былі партыйныя. Я ўжо мела 5-гадовы стаж працы, добра валодала нямецкай ды літоўскай мовамі, так што асаблівых праблемаў не было. Выкладала я фанэтыку, граматыку, гісторыю нямецкай мовы й лексыку, выкладала паступова, ад 1-га да 4-га курсу.

*Працяг будзе*

**Галіна Войцік**

# Браніслаў Тарашкевіч, якім яго ведалі родныя й землякі

### *да 110-годзьдзя з дня нараджэньня*

Гэтая зацемка ўзьнікла на падставе матар'ялаў нашых вандровак па Віленшчыне ў 1992-93 гг., калі мне пашчасьціла пабываць у розных мясьцінах Лаварышскай гміны Віленска-Троцкага павету, у прыватнасьці, у навакольлі родных Браніславу Тарашкевічу Чарнулішках, дзе ён вельмі часта бываў (з Чарнулішак была родам ягоная маці, некаторыя дасьледчыкі лічаць, што й сам Браніслаў нарадзіўся тут, а не ў Мацюлішках). Тады я з расповедаў родных, як, прыкладам, пляменьніцы слыннага Браніслава Марыі Восіпаўны Багдановіч (дзяв. Тарашкевічанка), і даведаўся, якім быў Браніслаў Адамавіч для сваіх родных і блізкіх. І якім ня ведалі яго іншыя. Ён не любіў засмучацца, залішне бедаваць, згадвала Марыя Восіпаўна. Падбадзёрваў сваіх блізкіх. Пры гэтым любіў зьвярнуцца ў лісьце да сваіх вершыкам. Выкарыстоўваў, як кажуць, матывы беларускага фальклёру. Напрыклад, у адным зь лістоў напісаў такое чатырохрадкоўе:

*Гараў я пад гарою,*
*Дык і плуг зламаўся,*
*Ну, ня плакаў я над сабою –*
*Сеў і засьмяяўся.*

Пісаў, што прывык да гараваньня.

У 1932 г., пасьля арышту яго ў 1931 г. у часе пераезду з Данцыгу (Гданьску) у Рыгу, ён у вершах з Лукішскай турмы пісаў пра брата Юзюка й швагера Гароніма, якія будавалі тады нешта ў сваёй гаспадарцы, так:

*Сьпічастыя бароды*
*Цягалі калоды,*
*Бярвеньні і латы*
*На гумны і хаты.*
*Народ не багаты –*
*Так нас ушчамілі,*
*Што й сьвет нямілы.*
*Аднак нічагуткі:*
*Ня беды, ня смуткі –*
*Засьвеце сонца*
*І ў наша ваконца.*



*1892 — 1938*

"Пісаў нібы вершыкамі й нігды не бедаваў над сабой. Усім суседзям перадаваў паклоны, – згадвае спн. Марыя. Падчас суда Тарашкевіч заклікаў свайго бацьку пазбавіцца наёмных працаўнікоў, набыць машыну, каб машынай самім абрабляць зямлю. Браніслаў любіў народную песьню. Было што, як пойдзе касіць, зьнекуль дадому прыехаўшы, дык сьпявае са сваімі хлопцамі:

*На вайну, сынок, паедзеш*
*І стуль не прыедзеш,*
*Панясеш ты плечы*
*Пад нямецкі мечы,*
*Панясеш галоўку*
*У чужу старонку..."*

Здалася прывабнаю й гэткая побытавая рысачка. Дома, як еў, Браніслаў любіў есьці з патэльні. Вясёлы нораў, жыцьцялюбнасьць выяўляліся ў ягоных адносінах зь мяйсцовымі служыцелямі каталіцкага касьцёлу, якія, між іншым, былі ведамыя ў навакольлі сваёю беларускаю нацыянальнаю сьвядомасьцю. У Лаварышскім касьцёле быў арганістым Пазьняк. Дык Браніслаў Тарашкевіч неяк жартам падгаварыў яго ў нешпары зайграць "Зялёны дубочак". Вось так часам дасьціпна жартаваў Браніслаў Тарашкевіч. Але трэба адзначыць, што гэтае адбывалася побач са шчыраю павагаю пачуцьцяў вернікаў. Калі Браніслаў быў маленькі, ён хацеў стаць ксяндзом. Расказвалі, што калі бацькі йшлі да касьцёлу, ён убіраўся ў белае й "служыў" імшу ў хаце. І маці Браніслава хацела, каб ён стаў ксяндзом, каб паступіў вучыцца ў духоўную сэмінарыю. На што Браніслаў, пасталеўшы, адказваў: "Добрым ксяндзом быць надта цяжка, а былё якім не хачу!" Ён абраў сабе ў жыцьці іншую дарогу – дарогу вучонасьці на карысць свайго народа й чалавецтва.

**Ігар Карашчанка**



Валеры Барташэвіч

## БЕЛАРУСЬ

О, Беларусь, мая краіна,
На ростанях сусветных сцежак
Ярмо нявольніцтва накінуў
Табе сусед з-за ўсходніх межаў.

Цябе дагэтуль у палоне
Чужак, прыкінуўшыся братам,
Трымае, седзячы на троне —
Як быў, так і застаўся катам!

Сыны твае шукалі долю,
Шмат абыйшлі дарог на сьвеце,
Чужую бараніўшы волю,
Сваю не здолелі прыкмеціць.

Надыйдзе, веру, час змаганьня
І зашуміць вясновы вецер,
Паток бурлівы, ачышчальны
Нарэшце змые бруд і сьмецце.

Зірне на край наш анямелы
Зноў сонейка паглядам боскім —
І колер бел-чырвона-белы
Расквеціць гарады і вёскі.

Слава Жук

## ДА РОДНАЙ БЕЛАРУСІ

Кастрычнік. Мэльбурн. Душнае надвор'е.
Заплюшчу вочы — роднае прыволле
Здалёку вее мне на высьмяглыя губы
Як дакрананьне губ жанчыны любай.

Там зараз восень, холад, лістапад.
Лісьцё паскідваў і заснуў каханы сад.
Пад песьні, што пяюць мінулага вятры,
Ён сьніць апошні дар загубленай пары.

Я ўспамінаю вочы сініх васількоў,
Над стрэхамі кружляючых буслоў,
Пах хлеба аржанога, малака і мёду
І строгасьць бацькаву, і матчыну лагоду.

А цэнтар Сьвету там, дзе родны дом,
Дзе басанож ты ўсё павыбегаў кругом,
Вяночкі, песьні, вогнішчы, гульба
І на Купальлі ўночы варажба.

Зьліліся ў сэрцы зоркі і двары,
І першы пацалунак і сябры,
Царква і вера, лікі абразоў,
Ісус Хрыстос і звону паразоў.

Гатовы ўсё з пакораю прымаць,
Гатовы ўсё апошняе аддаць,
Іду праз сьпеку й ціха я малюся,
За родны дом у роднай Беларусі.

*Мэльбурн,*
*13 кастрычніка 2001 г.*

# Дзіўныя шкоцкія гісторыі

Шатляндыя, або як называюць гэтую зямлю ангельскія беларусы – Шкоцыя – сваёй улюбёнасьцю ў міталёгію вельмі нагадвае Беларусь. У Шкоцыі здаўна існуе традыцыя пераказу фантастычных, звышнатуральных гісторыяў. Ніхто ня будзе запрошаны ў Шкоцыі ў дом, калі гэты чалавек не паабяцае распавесьці хоць-бы адную цікавую гісторыю. Адразу прыходзіць на ўспамін Ян Баршчэўскі зь ягоным "Шляхціцам Завальнем". Памятаеце, халодная зімовая ноч, заблукалы падарожны й агеньчык на вакне ў шляхціца Завальні, як маяк, што паказвае шлях: ідзіце сюды і для вас знойдзецца і цяпло, і ежа; адным словам, прытулак. Але за прытулак патрэбна заплаціць: распавесьці цікавую і, пажадана, жудасную гісторыю, дзе галоўнымі героямі будуць пеўні, што нясуць яйкі, цмокі ды розныя іншыя пачвары. Шкоты таксама патрабуюць такіх гісторыяў, ад якіх спаць пасьля будзе страшнавата.

Шматлікія шкоцкія гісторыі грунтуюцца на сапраўдных гістарычных выпадках, але, шматразова пераказаныя, яны часьцяком гэтак перайначваліся ды прыхарошваліся, што станавіліся зусім непадобнымі да першапачатковага варыянту. У гэтай краіне мітаў ды легендаў, якой ёсьць Шкоцыя, скардзіцца на няшчасныя выпадкі ды дзіўныя здарэньні – гэта значыць часьцяком усё звальваць на самога Нячысьціка. Калі ня можа пакараць за нейкае злачынства звычайны чалавечы суд, дык ёсьць Найвышэйшы. Згодна з упэўненасьцю шкотаў, злачынства ня можа быць без пакараньня. Калі не пры жыцьці, дык пасьля сьмерці. Вось тады і давядзецца адказваць за ўсё.

Гісторыі гэтыя пазьней пачалі ня толькі пераказваць, але нават і друкаваць. У самых розных выданьнях. Вядомы аматар шкоцкага фальклёру Уільям Оўэн сабраў гэтыя расповеды, пераклаў іх на сучасную ангельскую мову, дадаў свае меркаваньні ды выдаў асобнай кнігай, якую й назваў "Strange Scottish Stories" – "Дзіўныя шкоцкія гісторыі". Я пераклала гэтую кнігу на беларускую мову й надала некаторым гісторыям больш літаратурны выгляд. Першая гісторыя пра тое, як заняпаў магутны шкоцкі род Сіфартаў.

**Лілія Сазанавец**

Уільям Оўэн

## Апошні зь Сіфартаў



Калі чорная ліхаманка зьмяніла наскрозь хлапчуковую школу-інтэрнат, некаторыя з хлапчукоў былі выпраўленыя дамоў, але многія, каго зваліла хвароба, альбо хто жыў занадта далёка, каб мець магчымасьць вярнуцца дамоў, былі пераселеныя ў вялікі пакой, каб перажыць там хваробу. Аднойчы вечарам, калі жанчына, што глядзела за дзецьмі, выйшла з пакою, адзін з хворых, дванаццацігадовы хлапчук, убачыў, што дзьверы насупраць ягонага ложка пачалі павольна адчыняцца. У пакой асьцярожна ўсунулася агідная выгляду старая жанчына. З яе шыі на грудзі зьвісала скураная торба, зь якой выглядала нешта вялікае. Жанчына адразу спынілася, як толькі ўвайшла, затым павярнулася да ложка, што знаходзіўся найбліжэй да дзьвярэй, ды ўтаропілася ў хлопчыка, які ляжаў у бясспамятстве на ложку. Потым яна зрабіла колькі крокаў у накірунку да суседняга ложка, хітанула галавою, нібыта нешта вырашаючы. Нечакана старая выцягнула са сваёй торбы драўляны малаток (гэта ён вытыркаўся з торбы) ды драўляны-ж вялізны цьвік. Яна падняла цьвік над галавою хлопчыка, які спаў і нічога не адчуваў, і з жудасным сьвістам увагнала цьвік яму ў лоб. Зьмярцьвеўшы ад жаху, той хлопчык, які бачыў гэта, мог толькі назіраць за ўсім шырока расплюшчанымі вачыма. Зубы стукаліся адныя па адных, раптоўна заняло дыханьне. Жудасная старая прайшлася па пакою, прыглядаючыся да кожнага з хлапчукоў. Каля некаторых ложкаў яна нават затрымлівалася, перш, чым ісьці далей. Калі-нікалі яна выцягвала са сваёй торбы драўляны цьвік, размахвалася малатком і няшчасны хлопчык, які ўпотай сачыў за ёю, зноў чуў жудасны сьвіст, калі цьвік уваходзіў у лоб чарговай ахвяры.

Старая вядзьмарка ўсё бліжэй ды бліжэй падыходзіла да ягонага ложка. Чым больш яна набліжалася, тым больш расла занепакоенасьць беднага дзіцяці. Нарэшце яна падыйшла зусім блізка. Спынілася ў некалькіх кроках ад ложка, моўчкі ўтаропілася ў ягоны твар. Хлопчык бачыў, як яна працягнула руку да сваёй жудаснай торбы, але ён ня мог ні закрычаць, каб паклікаць на дапамогу, ні нават зварухнуцца. Зьмярцьвелы ад страху, ён чакаў, калі цьвік будзе ўвагнаны ў ягоны лоб... Але нічога не здарылася. Замест болю ад удару ён адчуў дотык яе халодных кашчавых пальцаў, якія па чарзе дакрануліся да ягоных вушэй. Пасьля гэтага старая павярнулася ды накіравалася да тых самых дзявярэй, праз якія ўвайшла. Як толькі дзьверы зачыніліся ўсьлед за ёю, зачараваньне адпусьціла хлопчыка. Ён закрычаў і тая жанчына, што глядзела за дзецьмі, ўбегла ў пакой. Яна знайшла хлопчыка ў стане вялікага ўзбуджэньня. Ён зь цяжкасьцю супакоіўся й здолеў нарэшце распавесьці ёй, што здарылася. Яна зараз-жа абыйшла ложкі ўсіх астатніх дзяцей, але нічога дзіўнага не знайшла. Усе спалі. Жанчына пасьмяялася з хлапчуковага расповеду. Яна вырашыла, што ён мае вялікую тэмпэратуру і ўсё гэта яму здалося.

Калі гадзіна пазьней прыйшоў доктар, каб агледзець дзяцей, ён таксама заўважыў, што хлопчык быў надта ўзрушаны і ў ліхіманцы. Ён спытаў, у чым рэч. Калі даведаўся пра тое, што толькі што адбылося, доктар, надзвычай уражаны пачутай гісторыяй, папрасіў хлопчыка яшчэ раз распавесьці пра нядаўна бачанае ім. Усё пачутае доктар старанна запісаў.

Зь цягам часу некаторыя з хлопчыкаў памерлі; некаторыя пакутавалі, але ня надта доўга, некаторыя ачунялі. Доктар да сваёй жудасьці знайшоў, што памерлі якраз тыя дзеці, каму, паводле словаў хлопчыка, вядзьмарка ўвагнала цьвік у лоб. Тыя, да каго вядзьмарка толькі наблізілася, але не закранула, хутка сталі здаровымі. А вось тыя, на каго яна ўважліва пазірала, або да каго дакраналася, але не ўбівала цьвік, пакутавалі пазьней. Хлопчык, які бачыў вядзьмарку, быў малады лорд Сіфарт. Ён доўга тады хварэў і пасьля таго, як змог урэшце падняцца з ложка, стаў амаль цалкам глухім. У апошнія гады свайго жыцьця ён да тагож страціў магчымасьць і размаўляць. Пасьля сьмерці гэтага лорда Сіфарта род ягоны па мужчынскай лініі скончыўся.

Ягоныя пакуты былі прадказаныя за шмат гадоў раней выдатным прарокам Кенэтам Маккензі, больш вядомым як Койніч Одгар або прарок Браган. Ён валодаў талентам прароцтва або Другім Бачаньнем, як гэта называецца ў Шкоцыі. Асоба, якая валодае такім талентам, без папярэдніх ведаў бачыць будучыню ў далечыні часу й прасторы й, дзякуючы гэтаму, можа прадказаць сьмерць або няшчасны выпадак ды шмат іншых здарэньняў. У Шкоцыі ў даўнія часы за такі талент звычайна не саджалі ў турму й не каралі, як гэта было ў іншых краінах Эўропы.

Другое Бачаньне лічылася ня толькі як дадзенае звыш уладальніку такога таленту, але найбольш як пакуты для яго й цяжкасьці. Прадбачаньне будучых падзеяў суправаджалася "нэрвовымі прыпадкамі", якія кідалі чалавека ў стан поўнай прастарацыі. Такім чынам, гэта быў непажаданы талент. Другое Бачаньне можа выклікаць зьдзіўленьне і нават недавер у вучоных, але ў ягоным існаваньні не сумняваюцца нават сёньняшнія шкоты. Сёньня, лічаць шкоты, няма ўжо такіх выдатных прарокаў, як прарок Браган, але, асабліва ў вясковай мясцовасьці, існуе адна ці болей асоба, якая ўмее "бачыць".

З усіх расповедаў вынікае, што прарок Браган нарадзіўся на востраве Левіс і што ён быў вядомы як прадказальнік у часах паміж 1630 і 1679 гадамі. Нарадзіўшыся ў маёнтку Сіфартаў на востраве Левіс, пра яго хутка даведаўся ўладальнік маёнтку лорд Сіфарт, як пра чалавека, які валодае талентам Другога Бачаньня. Лорд Сіфарт наблізіў да сябе прарока Брагана, які тады яшчэ насіў імя Маккензі. Хутка ён стаў улюбёнцам сям'і. Калі ён стаў дарослым, яму давялося пераехаць у суседні маёнтак Браган, які таксама належаў роду Сіфартаў. У гэты час ён і стаў вядомым як прарок Браган. Ён часта знаходзіўся ў прастрацыі, часта прарочыў і таму яго дапускалі нават на сьвецкія вечарынкі, на якіх валадары той зямлі хацелі даведацца пра сваю будучыню.

*Працяг будзе*

# "Хроніка Беларускага жыцьця на чужыне (1945 – 1984)"

## (Да выхаду з друку кнігі Міколы Панькова)

Алег Гардзіенка, малады беларускі журналіст і гісторык, зь якім я пазнаёміўся летась праз Інтэрнэт, напісаў мне пра такі выпадак: "...дзіўна, сёньня, адпраўляючы кнігі ў Аўстралію, жанчына на пошце запыталася: "Аўстралія? Вам чыгункай ці самалётам?"

Мне цікава, колькі-б гэта часу ехалі па рэйках чыгункі кнігі майго сябры да Аўстраліі? А калі сур'ёзна, дык колькі людзей ведаюць, дзе тая Аўстралія знаходзіцца? Напэўна, ткнуць пальцам на іншым канцы глёбуса й скажуць: "Недзе там, унізе". Можа таму аўстралійцы й завуць сваю краіну жартоўна "Падніз Сьвету"?

Спачатку я зь недаверам паставіўся да весткі Алега Гардзіенкі, што да друку рыхтуецца кніга Міколы Панькова, у якой падрабязна, дзень за днём, будуць пададзеныя падзеі з жыцьця беларускае эміграцыі, і не за кароткі пэрыяд, а за цэлых 40 гадоў! Аднак, атрымаўшы ад Алега напярэдадні Новага году кнігу Міколы Панькова, зразумеў, што, сапраўды, аўтар многа працы й цярпеньня ўклаў у ейную падрыхтоўку: толькі пра жыцьцё беларусаў Аўстраліі ў кнізе маецца 199 запісаў, што нямала для нашае аддаленае краіны. Праўду пісаў Алег, усё ў кнізе пададзена, дзень за днём, месяц за месяцам.

Каштоўнасьць працы М. Панькова ў тым, што зьместам сваёй кнігі ён падштурхоўвае і гісторыкаў у Беларусі, і цяперашніх грамадзкіх беларускіх дзеячоў ва ўсім сьвеце да новага погляду на беларускую эміграцыю пасьля 2-ой Сусьветнай вайны, погляду, які аб'ядноўвае сілы нашай такой разьяднанай і адрознай эміграцыі ў адну сілу, скіраваную на змаганьне за вольную й незалежную Беларусь. У кнізе распавядаецца пра 40-гадовую нястомную беларускую працу дзеля таго, каб у вольным сьвеце ведалі, што ёсьць такая краіна Беларусь, і ёсьць такі народ – беларусы.

Мы можам сёньня гаварыць пра БЦР і БНР, тлумачыць, чаму са спазьненьнем былі ўведзеныя ў статут Рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі пункты 2-га Усебеларускага Кангрэсу, што й хто за гэтым стаіць, мы можам... Але ці патрэбна гэтым займацца ўвесь час? Ці не надыйшла гадзіна "зьбіраць камяні"? Зьяднаць сілы эміграцыі?

У сваёй "Хроніцы" М.Панькоў моваю фактаў распавядае пра падзеі беларускага жыцьця на эміграцыі, не адкідваючы ўбок ні "крывічоў", ні "зарубежнікаў". Хаця самогаму М. Панькова, як паведаміў мой сябра Алег, адзін вядомы беларускі дзеяч на эміграцыі, аднойчы адкінуў: "Што? Дапамагаць у напісаньні кнігі сябру Хмары? Не! Ні ў якім разе!"

Зь цікавасьцю прачытаў у "Хроніцы" Панькова гістарычную даведку да яе Алега Гардзіенкі: "Паваенная беларуская эміграцыя й "Хроніка" Міколы Панькова". Алег вельмі добра апісаў сытуацыю, якая склалася пасьля сканчэньня 2-ой Сусьветнай вайны ў Нямеччыне з г. зв. "перамешчанымі асобамі", даў тлумачэньне зьяўленьня акрэсьленьняў "крывічы" й "зарубежнікі", апісаў жыцьцё ў беларускіх лягерох Нямеччыны, уздым і росквіт культурнай і грамадзкай дзейнасьці на эміграцыі, зазначыўшы, дарэчы, што гэта ён дапамог М. Панькову увесьці ў ягоную кнігу на места ініцыялаў шмат якія прозьвішчы беларускіх грамадзкіх дзеячоў.

Надрукаваная "Беларускім гістарычным аглядам" (выдавец Генадзь Сагановіч), кніга Міколы Панькова ёсьць неабходная ня толькі для беларусаў, але й для нашай эміграцыі, напрыклад, такім, як я, каторыя цікавяцца жыцьцём пасьляваеннай хвалі эміграцыі беларусаў, якая параскідвала іх па ўсім сьвеце.

Зразумела, вельмі цяжка было пададзь усю інфармацыю безь ніякіх памылак. Што да Аўстраліі, дык памылак ня так многа: пераблытаныя назвы цэркваў у Адэляйдзе й Мэльбурне, пададзеная вестка пра сход аддзелу БАА ў Адэляйдзе, якога паводле архіваў нашага Беларускага гістарычнага згкртаваньня ў Аўстраліі не адбывалася, ёсьць і іншыя дробныя заўвагі. Спадзяюся, што з часам "Хроніка" будзе выпраўленая й дапоўненая аўтарам.

Беларускай працы хапае сёньня й нам, прадстаўнікам новае эміграцыі. Ня так даўно мая дачка Тацяна дала мне кніжку-каляндар на новы 2002 г. У раздзеле каляндара "Міжнародная тэлефонная сувязь" ёсьць нават Босьнія, але няма Беларусі, а Менск уключаны ў склад Расеі. Давядзецца даслаць ліст да таго выдаўца, хто гэты каляндар складаў і выдаваў, ды запытацца, чаму гэта сталіца сувэрэннай Беларусі зрабілася з 2002 г. губэрнскім расейскім горадам? Другі прыкры выпадак адбыўся на пошце ў Адэляйдзе, калі пасылаў свайму бацьку Палікарпу заказную бандэроль. Работнік пошты недаверліва прачытаў назву "Belarus" і сказаў мне, што зробленая памылка, бо такой краіне не йснуе. Я сказаў, што ніякай памылкі тут няма, і што такая краіна йснуе з 1991 г. Ён кінуўся да сваіх талмудаў, нешта пагартаў і праз хвіліну прасіў прабачэньня, вінавата шчырачы зубы ў прафэсыйнай усьмешцы. Ды што там работнік пошты. Адзін з маіх босаў напрацягу пяці гадоў называў мяне "балгарынам" і кожнага разу я паўтараў: "Містэр Спэнсэр, я – не балгарын, я – беларус!" Праз шэсьць гадоў містэр Спэнсэр ведаў ужо нават і колеры нашага нацыянальнага сьцягу, сустракаў мяне й весела казаў: "Belarus! White-red-white!" ("Беларусь! Бел-чырвона-белы!").

Вельмі прыемна бачыць, як творчая дзейнасьць прагрэсыўнай часткі беларускай інтэлігенцыі, што жыве ня толькі ў ЗША, а і ў іншых краінах вольнага сьвету, аб'ядноўвае прадстаўнікоў беларускае эміграцыі з суайчыньнікамі на Бацькаўшчыне. Вынікам такой станоўчай дзейнасьці зьяўляюцца кнігі "Вырваныя бачыны. Да гісторыі Саюзу Беларускай Моладзі", "Хроніка беларускага жыцьця на чужыне" ды інш. Як пісаў у 1987 г. сьветлай памяці Міхась Зуй (Сыдней):

"Нас, беларусаў, невялікая колькасьць на эміграцыі, і мы ня маем сілы многа чаго зрабіць карыснага для Бацькаўшчыны. Але тая сьціплая нашая праца, што была зробленая й робіцца, павінная быць запісаная ў гісторыю. Калі-ж ня будзе гэтага зроблена, уся нашая праца напрацягу гадоў згіне бясьследна.

Цяжкі й змагарны пэрыяд беларускай гісторыі будзе нэгатыўна насьветлены ворагамі незалежнай Беларусі. Ахвярных змагароў-патрыётаў яны прадставяць у чорных колерах. Мы павінныя не дапусьціць, каб нашыя суродзічы, як на эміграцыі, так і на Бацькаўшчыне, былі-б кормленыя толькі маной нашых ворагаў. Разьбіваць іх ману!

Гэта мы можам рабіць нашай прэсай, пісаньнем гістарычных кніг і жывым словам нашых дэлегатаў на міжнародных канфэрэнцыях..."

**Віктар Кавалеўскі**
*Адэляйда*

# Бягомльская трагедыя

У папярэднім нумары "Руні" паведамлялася, што беларусывіленчукі 9 сьнежня зладзілі перад беларускаю амбасадаю ў Літве пікет, галоўным лёзунгам на якім быў "Лукашэнка! Дзе Ганчар, Завадзкі, Захаранка?" Пра пікет беларускаму амбасадару сп. У. Гаркуну было паведамлена, аднак ён, чаго й трэба было чакаць, да пікетоўшчыкаў ня выйшаў. Адказу на балючае пытаньне, зразумела, у яго не было, і, напэўна, з боку афіцыйных беларускіх уладаў ніколі ня будзе. Аднак людзі ўсяго сьвету павінныя ведаць пра злачынствы, якія сёньня адбываюцца ў Беларусі, каб у далейшым нічога падобнага не паўтарылася, а злачынцы не мінулі адпаведнага пакараньня.

Адказ на пытаньне "Дзе Ганчар, Завадзкі, Захаранка?" упершыню далі яшчэ ў жніўні 2001 г., за 2 тыдні да прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі, былы супрацоўнік беларускага КДБ капітан Генадзь Угляніца й актывіст арганізацыі "Край" Андрэй Жарнасек у сваёй відыёкасэце. (Цяпер абодва знаходзяцца на эміграцыі ў Нарвэгіі й расказваюць пра злачынствы беларускіх уладаў у сваіх інтэрвію). Яны правялі сваё ўласнае рассьледаваньне й прыйшлі да высновы, што Ганчара й Красоўскага ўжо няма ў жывых, што яны забітыя й ляжаць недзе ў лясох Бягомльшчыны. Гэта ня выдумка, а горкая праўда.

...Пасьля таго, як спэцпадраздзяленьне СОБРа пад кіраўніцтвам палкоўніка Зьміцера Паўлючэнкі, якая базавалася пры в/ч 3214, разьмешчанай у лясных масывах Бягомльшчыны (Віцебская вобл.), выканала пастаўленую перад ёй задачу фізычнага зьнішчэньня некаторых крымінальных аўтарытэтаў у Беларусі, яна перайшла да зьнішчэньня палітычных праціўнікаў рэжыму Лукашэнкі. Адныя зь першых ахвяраў гэтага спэцпадраздзяленьня СОБРа, падпарадкаванага тады непасрэднаста сакратару Савета бясьпекі РБ Віктару Шэйману (цяпер ён узначальвае Пракуратуру РБ!), былі Ганчар і Красоўскі, якія былі выкрадзеныя й вывезеныя ў невядомым кірунку. Угляніца й Жарнасек у ходзе прыватнага рассьледаваньня выйшлі на нейкага Віталя Мяцельскага, які цяпер жыве ў Барысаве, а тады служыў у згаданай в/ч 3214. Пазьней Мяцельскі з рэкамэндацыі палк. Паўлючэнкі, перайшоў у СОБР. (Дададмо, што Мяцельскі патрапіў у в/ч 3214, якая разьмяшчаецца на тэрыторыі былой савецкай ракетнай базы, з дапамогай свайго дзядзькі, былога намесьніка каманьдзіра гэтай часткі). Гэты самы Мяцельскі й распавёў прыватным сьледчым (ягоны аповед запісаны на дыктафон) пра тое, што там у Бягомльскіх лясох адбывалася. Сыходзячы з пачутага ад Мяцельскага, Жарнасек і Угляніца з дапамогай мэталяшукальніка й прыбора начнога бачаньня ўсталявалі мейсца гібелі Ганчара й Красоўскага, аднак справу ім да канца давесьці не ўдалося, бо супрацоўнікі РАУС выпадкова знайшлі ў адной з кватэраў у Мінску іхнае начыньне й сьледчыя "засьвяціліся". Баючыся расправы, яны нішкам пакінулі Беларусь і апынуліся ў Нарвэгіі.

Як распавядаў В. Мяцельскі, джып з Ганчаром і Красоўскім, які быў захоплены СОБРам, быў прыгнаны на тэрыторыю в/ч 3214. Салдаты з часткі у строгім сакрэце выкапалі яміну й кінулі у яе джып, закапалі й праехаліся па ёй БТРам. У закапаным джыпе пакоіцца й забітыя Ганчар з Красоўскім.

Цяпер справай зьнікненьня Ганчара й Красоўскага займаюцца КДБ і Пракуратура РБ і канца гэтае справы не відаць, бо яна фактычна Лукашэнкам прыпыненая. Папярэднія старшыня КДБ Мацкевіч і Пракурор РБ Бажэлка былі Лукашэнкам зьнятыя зь іхных пасадаў, зьнялі таксама й Паўлючэнку. Зразумела, гэтая тройка шмат чаго ведае, але змушаная пад пагрозаю сьмерці маўчаць. Былы палкоўнік Алкаеў (у яго Паўлючэнка браў пад роспіс пісталет з глушыцелем для выкананьня "прыгавораў"), што знаходзіцца цяпер у Нямеччыне, таксама пакуль што маўчыць

Цяпер у гэтай злачыннай справе пастаўлена толькі коска, аднак ёсьць надзея, што прыйдзе час, калі будзе пастаўленая апошняя кропка ў ёй. Угляніца й Жарнасек рыхтуюць матар'ялы для перадачы ў Міжнародны суд у справе гэтага гнюснага забойства, да якога маюць дачыненьне людзі з самых вышэйшых эшалонаў улады Рэспублікі Беларусь.

**Юры Гіль**

## У ангельскім тыднёвіку "The Universe"

зьмешчаная зацемка пра тое, што цяперашнія беларускія ўлады выступаюць супраць Беларускай Каталіцкай Царквы. Яны незадаволеныя штотыднёвай каталіцкай службай у Менску, якая паказваецца па тэлевізіі. Лукашэнкаўскі ўрад супраць таго, каб пасьля беларускай Багаслужбы прыхаджане-беларусы славілі Бога сьпяваньнем нашага нацыянальнага гімну "Магутны Божа". Паводле ангельскае прэсы, беларускія ўлады забаранілі каталіцкую службу праз тое, што "Магутны Божа" – гімн апазыцыі. Мы тут, на эміграцыі, прадстаўнікі абодвух канфэсіяў, і праваслаўныя, і каталікі, у сваіх прыходах пасьля заканчэньня Багаслужбы абавязкова адсьпеўваем беларускі царкоўны гімн "Магутны Божа". Гэты гімн адлюстроўвае нашую любоў да нашае далёкае Бацькаўшчыны, нашую просьбу да Бога, каб Ён захаваў Беларусь незалежнай і вольнай. Нас, пражываючых у дэмакратычнай краіне, дзівіць, чаму сёньняшні беларускі ўрад гэтак баіцца апазыцыі? Калі ў краіне няма апазыцыі, тады няма дэмакратыі й паўстае дыктатура, катора адымажоўвае духовую й фізычную свабоду чалавека: Прыклад – дыктатура пралетарыяту ў былым Савецкім Саюзе.

**Сыльвэстар Будкевіч**
*Англія*

## Праваслаўныя беларусы Лёндану

й правінцыі штогод урачыста адзначаюць свае хрысьціянскія сьвяты. І сёлятняе сьвята Калядаў таксама ўдалося. У часе сьвятой літургіі, якую служыў а. Аляксандар Сідаровіч, прысутнічаў амбасадар Рэспублікі Беларусь у Вялікабрытаніі др. Валеры Садоха з сваёю першай сакратаркай др. Зояй Калантай. Прысутнічаў на багаслужбе й др. Брэт-Караўтдэр з жонкаю-грачанкаю. У часе багаслужбы хор пад кіраўніцтва Марыі Галубінкі прасьпяваў калядку "Ціхая ноч". Пасьля літургіі а. Аляксандар запрасіў усіх прыхаджанаў у прыцаркоўную залю на сьвяточнае прыняцьцё. Хоць на дварэ не было так холадна, але паветра было вільготнае, неба пахмурнае, сумнае. Аднак настрой адчуваўся сьвяточны. Пры сьвяточным стале першы выступіў з прамовай амбасадар, прамова ягоная зводзілася да нашага жыцьця на чужыне. Адных, сказаў ён, пасьля вайны вывезьлі ў Сыбір, а іншыя не чакалі, пакуль іх вывезуць, а падаліся на Захад. Прамоўца ўспомніў, што й зь ягонай радні таксама вывезьлі ў Сыбір. Ягоную прамову, па-ангельску, паўтарыла спн. Калантай, бо ня ўсе ў залі разумелі па-беларуску. Напрыканцы яна запрашала супляменьнікаў зьвяртацца з сваімі праблемамі ў амбасаду. З даўжэйшай прамовай выступіў англічанін Брэт-Караўтдэр, каторы распавёў пра гуманітарную дзейнасьць і дапамогу Ордэна Праваслаўных Лекараў, сябрам якога ён зьяўляецца (як і наш а. Аляксандар). Дзякуючы гэтай дабрачыннай арганізацыі, у Менск, Мазыр, Нароўлю, Сьветлагорск ды іншыя гарады Беларусі былі пасланыя мэдыкамэнты, за якія ўжо атрымаными падзякі зь Беларусі. Пасьля прамоваў харысты прасьпявалі "Люблю наш край" і "Дні праходзяць...", за што былі ўзнагароджаныя апладысмэнтамі прысутных. У некаторых у вачох стаялі сьлёзы. Каляднае сьвята ўдалося, і ўсё-ж у некаторых прыхаджанаў адазваліся сум і спачуваньне да тых суайчыньнікаў, што жывуць у Беларусі, дзе няма свабоды, няма сваёй беларускай школы, дзе ўрад карыстаецца чужою моваю ў сваёй дзяржаве й, што найбольш злачынна, таямніча гінуць дзейныя й сьвядомыя беларусы. Такія рэчы папулярныя толькі ў дыктатарскіх, паліцыйных дзяржавах. Шмат гора перажыў беларускі народ за сваю гісторыю, перажыве ён і гэтае гора, несправядлівасьць, біду. Божая кара злачынцаў не міне!

**Прысутны**

## Весткі з Мэльбурну

■ Месяц лістапад у нас у Аўстраліі ёсьць вельмі багаты на розныя вясновыя прыгоды, а менавіта – напярэдадні блізкага лета пачынаюцца Калядныя Сьвяты, кожны аўстраліец ідзе ў 3-4 нядзельны адпачынак, а хто не працуе й жыве з пэнсіі, дык ладзіць разнастайныя экскурсіі й выезды па Аўстраліі. Да прыкладу, напачатку лістапада ў Аўстраліі адзначаецца г. зв. Конскае сьвята, якое вельмі глыбока «ўвайшло ў косьці» кожнага аўстралійца. Вось і мы, аўстралійскія беларусы, у гэты сьвяточны дзень аблюбавалі сабе мейсца на фэрме аднаго маладога беларуса, якая якраз знаходзіцца на тэрыторыі адной вельмі гістарычнай мясьціны: тут у часе «залатой ліхаманкі» сабралася калісьці разам больш за 90 тыс. шукальнікаў багацьця з усяго сьвету. Вось-жа й мы рашылі правесьці сьвяточны дзень на гэтым самым мейсцы. Каля 11-ай раніцы пачалі зьяжджацца госьці, разлажыўшыся, пачалі частавацца ды абмяркоўваць цякучыя справы, асабліва шмат гаварылася пра родны край. Неўзабаве падсмажылася бараніна, дасьпелі шашлыкі, пачалася пачостка, загучэлі беларускія песьні. А пасьля нас чакала вандроўка па прыгожым лесе, дзе так багата старых закінутых шахтаў-капальняў першых аўстралійскіх піянэраў.



*Зьлева направа: А. Шнэк, Г. Шайпак, А. Груша, С. Жук, П. Гуз, М. Тарашкевіч, А. Грыцук.*



*Сьпявае хор "Каліна"*

**Паўлюк Дуброўскі**

■ У нядзелю 25 лістапада 2001 г. у Мэльбурне мяйсцовая парафія Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Сьв. Віленскіх Мучанікаў адзначыла 20-годзьдзе з дня высьвячэньня свайго храму мітрапалітам Ізяславам. Будаўніцтва царквы закончылася ў 1981 г., і тады-ж мітрапаліт Ізяслаў спэцыяльна прыехаў з ЗША, каб асьвяціць храм. Урачыстасьць пачалася аб 10.00 раніцы літургіяй, пасьля заканчэньня якой быў адслужаны Малебен Удзячнасьці, на якім служылі настаяцель нашай царквы а. Аляксандар і а. Юры з украінскай царквы. Дзякавалі Ўсявышняму Богу, што ўжо 20 гадоў беларусы Мэльбэрну моляцца ў сваім уласным будынку, які давялі да ладу сваімі рукамі. На заканчэньне малебену прыхаджанамі быў адсьпяваны гімн "Магутны Божа". На мастацкай частцы ў прыцаркоўнай зале Аўген Груша прадэклямаваў паэму Якуба Коласа "Паслушная жонка", якая выклікала ў прысутных нямала вясёласьці й сьмеху, а мастацкі гуртok "Каліна" пацешыў прысутных беларускімі песьнямі.

**Аўген Груша**

■ У нядзелю 2 сьнежня 2001 г. Беларускі цэнтральны камітэт у Вікторыі супольна з парафіяй БАПЦ Сьв. Віленскіх Мучанікаў адзначыў чарговыя ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну. Пры ўваходзе ў царкву спн. Аляксандра Русак чапляла прыхаджанам нагрудныя значкі з выявай бел-чырвона-белага сьцягу перасечанага чорнаю папярочнаю стужкаю. Па заканчэньні літургіі а. Аляксандар Кулакоўскі адслужыў паніхіду па загінуўшых героях-случчаках. У часе паніхіды сябры з розных беларускіх арганізацыяў стаялі з пахіленымі бел-чырвона-белымі сьцягамі й са сьцягам Аўстраліі. Пасьля паніхіды ўсе сабраліся ў прыцаркоўнай залі й старшыня БЦКВ сп. Павал Гуз адчытаў акадэмію, а потым папрасіў усіх устаць і прасьпяваць "Сьпі пад курганам героя". Затым ён зачытаў прывітаньні, якія надыслалі суродзічы на гэты дзень, як зь Беларусі, так і з вольнага сьвету. Затым сп. Алег Шнэк зачытаў даклад на тэму дня. Мастацкая частка складалая з выступленьня хору "Каліна". Першай выконвалася песьня "Прывет" на словы Паўлюка Дуброўскага, пакладзеных на музыку кампазытарам Селехам Качанскім. Пасьля былі выкананыя вядомыя песьні "Беларусачка", "Рабіна-рабіначка" й "Люблю наш край". А яшчэ наш новы сябра сп. Слаўка Жук прадэклямаваў верш "Да роднай Беларусі", адумыслова напісаны для гэтага сьвяткаваньня. Сп. Аўген Груша прадэклямаваў верш "Дзе нашых продкаў слава". На заканчэньне імпрэзы быў адсьпяваны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

**Паўлюк Дуброўскі**

■ У чацьвер 6 сьнежня 2001 г. адбылася апошняя перад Калядамі зборка Беларускага сацыяльнага клюбу ў Мэльбурне. Напрацягу году клюб зьбіраецца што другі чацьвер у прыцаркоўнай залі БАПЦ. На зборках можна купіць беларускую прэсу: "Беларускі Дайджэст", "Рунь", "Голас Радзімы" (раздаецца бясплатна). Распавядаецца пра важнейшыя падзеі ў Беларусі. Клюб арганізоўвае паездкі ў цікавыя мясьціны Вікторыі, ладзіць паходы ў тэатры й на выставы. Старшынём клюбу зьяўляецца сп. Грыша Шайпак.

**Алег Шнэк**

# АДРЫНУТЫЯ

**Гэты ліст, як крык адчаю, прыйшоў у нашую амэрыканскую праваабарончую арганізацыю зь Нямеччыны.Ён быў як SOS з гінучага карабля. калі насоўваецца нешта чорнае, жахлівае, амаль непазьбежнае, а там недзе далёка ёсьць людзі – добрыя, разумныя істоты – якія пачуюць, пасьпяшаюць на дапамогу, уратуюць… Падаем гэты ліст цалкам:**

*22 декабря 2001 г.*
*Председателю Бостонского Комитета против Этнических Чисток*
*Виктории Пупко*

*Уважаемая Виктория!*

*Мы, беженцы из Чечни в Германии, имеем очень мало шансов получить здесь убежище. Хотя мы очень благодарны этой стране за оказанную нам во время нашего пребывания здесь материальную помощь и крышу над головой...*

*Но мы находимся в состоянии депрессии и подавленности от того, что, несмотря на разгар зимы, нас начали депортировать в Россию. Немецкие власти объясняют это тем, что в России нас, мол, не обижают, не притесняют и вообще принимают с распростёртыми объятиями.*

*Но мы прекрасно знаем, что, если нас куда и примут в России, так это - в тюрьмы, а если ещё куда-нибудь, то только для того, чтобы сделать из нас мишени для испытания русского оружия разного типа. Вот для этого мы действительно нужны России.*

*До боли обидно и совершенно не понятно, как в демократическом государстве, в цивилизованном обществе, там, где соблюдаются права человека, в том числе, и его право на жизнь, вышвыривают, выдворяют именно нас чеченцев, которые чудом вырвались из пасти Зверя, спасая жизни своих детей. Чеченцы взывают о помощи, просят, умоляют защитить их от насилия и смерти, а их кидают обратно в лапы тому же хищнику, от которого они только что сбежали!*

*В последнее время чеченцы на свои просьбы о предоставлении им убежища получают официальные отказы, с указанием недельного срока. Это означает:*

*- Во-первых, то, что это заключение Немецкого Иммиграционного Департамента обжалованию не подлежит.*

*- Во-вторых, нас теперь заставляют подписывать бумагу о том, что мы сами добровольно в недельный срок покинем Германию, а если нет, то нас в наручниках сажают в самолёт и отправляют в Россию, прямо к нашим врагам. Особенно это практикуется на земле Niedersachsen.*

*К сожалению, мы не можем описать всё подробно: мы не всё понимаем, что вокруг нас происходит. Мы не знаем немецкого языка, не знаем немецких законов. Но одно мы знаем точно: это бесчеловечно!*

*Но главное, что мы никак не можем понять: как это с молчаливого согласия всего мира России позволено с такой страстью уничтожать нас! Нас отовсюду швыряют обратно в эту Звериную пасть!*

*С уважением и большой благодарностью за Ваш труд.*
*С надеждой на понимание и помощь.*

*Чеченские беженцы в Германии*

Гэтыя чэчэнскія бежанцы, у бальшыні сваёй – жанчыны й дзеці, не загінулі, калі расейская авіяцыя бязьлітасна накрывала іхныя мірныя сёлы; яны засталіся жывымі, калі іх бежанскія калёны, што рухаліся да інгушскай граніцы, траплялі пад кулямёты, танкавыя, ракетныя абстрэлы расейскіх войскаў; яны прайшлі жывымі цераз шматлікія блёкпасты, дзе расейскія ваенныя, глумячыся, бессаромна вымагалі зь іх за праход плату – плату за жыцьцё... Яны не памерлі з голаду, холаду й антысанітарыі ў інгушскіх лягерох бежанцаў. На іхных вачох падчас "зачыстак" расейскія салдаты больш двух гадоў забівалі іхных сыноў, мужоў, бацькоў, братоў, вывазілі іх у невядомым кірунку.

І вось – Нямеччына, дэмакратычная краіна. Спакойнае мірнае жыцьцё, няма ні артылерыйскіх абстрэлаў, ня трэба суднямі хавацца ў падвалах, куды расейскі салдат, уварваўшыся ў дом, ня гледзячы, можа шпурнуць гранату. На вуліцах не страляюць, няма спусташальных крывавых "зачыстак", і нават дзеці, прапусьціўшы два з паловай школьныя гады, зноў сядаюць за парты... І раптам – пагроза дэпартацыі!

Матыў для адмовы чэчэнцам у палітычным прытулку ў Нямеччыне (а пасьля 11 верасьня такія адмовы зрабіліся частымі) адзін. Як было сказана ў адным з заключэньняў Іміграцыйнага Дэпартаманту, чэчэнцы, замест таго, каб уцякаць за мяжу, "могуць выкарыстаць унутрырасейскую (на тэрыторыі РФ) альтэрнатыву для эміграцыі..." Далей гаворыцца, што "праз растучыя антычэчэнскія настроі й павелічэньне рэпрэсыўных мераў супраць каўказцаў рэгістрацыя чэчэнцаў у вялікіх расейскіх гарадох спатыкаецца зь цяжкасьцямі, але ў менш прамыслова разьвітых раёнах і невялікіх расейскіх гарадках чэчэнцы могуць асесьці – атрымаць рэгістрацыю, атайбавацца, легальна ўладкавацца на працу..."

Што на ўсе гэтае сказаць? Нямецкія эміграцыйныя чыноўнікі, напэўна, ня ведаюць (хаця ім згодна штату трэба гэта ведаць, дый і нямецкая прэса пра гэтае пісала), што ў Расеі, нават атрымаўшы рэгістрацыю, выхадцу з Чэчэніі надзвычай цяжка, а часам і немагчыма, атрымаць працу, зьняць кватэру, уладкаваць дзіцё ў дзіцячую ўстанову... А ва ўрадавыя арганізацыі (напрыклад для таго, каб атрымаць замежны пашпарт) наогул бяз хабару лепш ня соўвацца... Ня ведаюць, напэўна, чыноўнікі й пра тое, што на вуліцах расейскіх гарадоў (у тым ліку і ў невялікіх) чэчэнцаў, як шалёных сабакаў, спыняе міліцыя; што падчас затрыманьняў апэратыўнікі нярэдка імкнуцца падсунуць ім у кішэні наркотыкі, і каб не дапусьціць гэтага, чэчэнцы змушаныя наглуха зашываць свае кішэні; што затрыманых чэчэнцаў у аддзяленьнях міліцыі жорстка, часта да інваліднасьці зьбіваюць...

Каб зусім зразумелым зрабілася, як у Расеі ставяцца да чэчэнцаў, прывядзем прыклад, калі на ўроку рускай літаратуры ў адной з прэстыжных маскоўскіх гімназіяў настаўніца пераварыла лермантаўскага Мцыры (памятаеце, якая гэта, як пісаў Бялінскі "исполинская натура?! Какой могучий дух?! Какой боец, вольнолюбец, мятежная душа?!") у "вероломного, подлого, коварного кавказца" і, нават горш таго – у чэчэнца. А тыя вучні, што адмовіліся на такі капыл пісаць сачыненьне, атрымалі "двойкі" (*«Новая газета», 15 студзеня 2001 г., «Содержание поэмы и форма черепа»*).

А пагром, учынены 28 сакавіка 2001 г. у хімкінскім інтэрнаце нацыянальнай чэчэнскай тэатральнай студыі "Нахі" пры Маскоўскім дзяржуніверсытэце культуры!? Аб 5.30 раніцы туды ў масках і з сабакамі ўварваліся ўзброеныя байцы падмаскоўнага РУБОПа й абласнога СОБРа. З выдуманай прычыны праверкі ананімнага званка пра схаваны ў інтэрнаце тратыл, яны, не прадставіўшы ніякіх дакумантаў, пачалі за валасы сьцягваць напаўсонных студэнтаў з ложкаў, зьбіваючы іх, пінаючы й крычучы ўсялякую нецэнзуршчыну... Напрацягу трох гадзінаў будучыя чэчэнскія акторы ляжалі пад дуламі аўтаматаў на падлозе ў адных трусах на сакавіцкім скразьнаку: прыхадні пастараліся ў вадначасьсе расчыніць бальконную і ўваходную дзьверы. Студэнтаў пэрыядычна зьбівалі, прымушалі поўзаць па падлозе з пакоя ў пакой, называлі «чичами», «грязными обезьянами», «черными тварями», «быдлом», «моджахедами», якіх трэба рэзаць. Ім казалі, што чэчэнцы здольныя толькі на тое, каб пасьці бараноў і менавіта гэтым яны павінныя займацца. Ім плявалі ў твар. Іх білі па галаве кнігай "Судьба чечено-ингушского народа". У некаторых вырвалі клочча валасоў. Некаторым гразілі, што адвязуць у лес, расстраляюць і закапаюць там у яме. Час ад часу нехта з пагромшчыкаў крычаў: «Мы вам не дадим учиться в России!» 55-гадовага дацэнта Аліхана Дзідзігава зьбілі прыкладамі, яму плявалі ў твар, выкручвалі пальцы, білі нагамі, а калі ён страціў прытомнасьць, хадзілі па сьпіне... Калі прысутны пры гэтым сын асьмеліўся папрасіць за бацьку, яму завялі рукі назад, надзелі наручнікі й, уставіўшы паміж імі аўтамат, пачалі пракручваць яго... (*«Новая газета», 21 красавіка 2001 г., «Падение бьющих»*).

Вы мяркуеце, што за гэты фашысцкі пагром у паўгадзіны язды ад Крамля хто-небудзь панес пакараньне?

*Працяг у наступным нумары*

**Уладзімір Крылоўскі,**
*Нью-Ёрк*

**Віктория Пупко,**
*Бостан*

**Умовы падпіскі:**

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны чэк* сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:
*Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansabankas, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no.* ***10 000 196 490.***

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **61 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі й краінах СНД** паведамляем адрас у Менску:
*Александар Стральцоў, 220050 Менск, п/с 26.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях, эквівалентная **$ 3**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце, эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас : *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых, эквівалентная **$ 8**.

Газэта змакетаваная на настольна-выдавецкай сыстэме рэдакцыі atgimimas

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | |
|---|---|
| М. Белямук з Амэрыкі | USD 30 |
| М. Пецюкевіч зь Італіі | USD 25 |
| К. Акула з Канады | USD 30 |
| М. Швэдзюк з Англіі | GBP 40 |
| Х. Кажаневіч з Англіі | GBP 10 |
| К. Верабей з Амэрыкі | USD 40 |
| М. Сьнежка з Амэрыкі | USD 40 |
| М. Антух з Аўстраліі | AUD 100 |
| Я. Ярмалковіч з Польшчы | USD 12 |
| М. Быблюк з Польшчы | USD 12 |
| Я. Жамойцін з Польшчы | USD 12 |
| І. Вараўка з Польшчы | USD 8 |
| С. Шабовіч з Амэрыкі | USD 50 |
| Л. Норык з Амэрыкі | USD 35 |
| М. Смаршчок з Амэрыкі | USD 100 |
| М. Клакоцкі з Амэрыкі | USD 50 |
| Я. Каханоўская з Амэрыкі | USD 30 |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

Адрас для допісаў:
«Рунь» 2001 Vilnius, a/d 1021,
Lithuania
*e-mail:* **editor@runbel.lt**

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
Lietuvos baltarusių laikraštis

заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўца
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў**
***«Дэмакратыя для Беларусі»***
адрас рэдакцыі
Taikos, 50-29, 2017 Vilnius
тэлефон: (+ 370 2) 26 10 62
факс: (+ 370 2) 42 38 02
**http:// www.runbel.lt**
*e-mail:* editor@runbel.lt
**Алег Мінкін** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
друкарня UAB «Dumsa»,
Žirmūnų g. 68, Vilnius
наклад **1000**